

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 33 (719) 31 ЖНІЎНЯ 2005 г.

## Нам не патрэбна рускамоўная хваля

**Сп. Карнеліі Рабітц,**
**кіраўніку рускамоўнай рэдакцыі**
**"Нямецкай хвалі"**

**Паважаная спадарыня Карнелія!**

У ліпені гэтага года я быў у Варшаве разам з вучнямі гуманітарнага ліцэя, які быў два гады назад зачынены ўладамі, толькі за тое, што навучанне там вялося на дзяржаўнай -беларускай- мове. Але дзеці, выкладчыкі і іх бацькі не скарыліся, і ліцэй працуе нелегальна, дасягаючы пры гэтым вельмі добрых вынікаў. Падчас сустрэчы выкладчыкаў і ліцэістаў з Бaverніславам Гярэмякам, экс-міністрам замежных спраў Польшчы, а зараз дэпутатам Еўрапарламенту, мы абмеркавалі Вашу пазіцыю несці беларусам дэмакратыю на чужой, нярoднай мове. Гярэмяк сказаў, што, калі б нямецкая радыёстанцыя паважала беларусаў, то зрабіла б беларускамоўную рэдакцыю і знайшла б неабходныя сродкі.

Таму Ваша рашэнне адуковўваць нас на мове краіны, якая ваявала з намі 500 год, а потым у 1795 разам з Прусіяй і Аўстрыйскай імперыяй пазбавіла нас незалежнасці, выклікае ў кожнага беларускага патрыёта рашучы пратэст.

Вы, відаць, забыліся, што Беларусь знаходзіцца не ў Азіі, а ў цэнтры Еўропы і да канца XVIII ст. была фарпостам заходнееўрапейскай цывілізацыі. У XIII – XVI стст. старабеларуская мова была дзяржаўнай мовай адной з самых вялікіх краін тагачаснай Еўропы - Вялікага Княства Літоўскага, і знішчыць яе рускім імперыялістам, а потым і бальшавікам не ўдалося і не ўдасца.

Чамусьці ў нямецкага ўраду знайшліся грошы, каб ужо пяць год трымаць адпаведную рэдакцыю на ўкраінскай мове. Украінцы ведаюць рускую мову лепей за беларусаў, але з павагі да іх "Нямецкая хваля" даўно гучыць па-украінску. Мы таксама хочам, каб нас паважалі.

Зараз, калі "Нямецкая хваля" атрымала грошы Еўразвязу для вяшчання на Беларусь, Вы проста абавязаны зрабіць беларускамоўную рэдакцыю, бо ў Еўразвязе пануюць усе еўрапейскія мова, нават такія як мальтыйская ці ірландская.

Гэта патрабуюць і беларусы, якія жывуць спрадвечна ў Польшчы, Літве і Латвіі і не збіраюцца слухаць радыё на мове савецкіх акупантаў.

Шаноўная спадарыня Карнелія! Ваша не зусім прадуманае рашэнне адукоўваць беларусаў па-расейску выклікала ў нашай краіне вялікую палеміку, якая не спыніцца, пакуль Вы не зробіце беларускамоўную рэдакцыю.

Калі Вы гэтага не жадаеце, ці не можаце, лепей не пачынайце сваю праграму, бо карысць для Беларусі мець 30-хвілінную штодзённую перадачу на кароткіх хвалях вельмі малая, а аўтарытэт Вашай шаноўнай радыёстанцыі сярод беларускіх патрыётаў страціцца надоўга. Чаму б Вам не ўзяць прыклад з польскага ўраду, які выдзеліў грошы, каб стварыць новую беларускамоўную радыёстанцыі для Беларусі? Няўжо нямецкі ўрад бяднейшы за польскі і не разумее, што такое руская мова для свядомага беларуса? Раю Вам яшчэ раз падумаць над гэтым. Дасылаю Вам дзве ўлёткі, якія распаўсюджвала беларуская моладзь.

**З павагай**
**Старшыня "ТБМ імя Ф. Скарыны" – Алег Трусаў.**

## Пікет супраць рускамоўнай "Нямецкай хвалі"
### *Кроніка пратэсту*




**22 жніўня.**

Санкцыянаваная акцыя пратэсту супраць планаў рускамоўнага вяшчання на Беларусь радыё "Нямецкая хваля" пачалася 22 жніўня на менскай плошчы Бангалор.

Удзельнікі акцыі трымалі плакаты ("Для роднай мовы "створаны ўмовы": паўсюдна на вачах чужыя словы", "Мы хочам слухаць "Нямецкую хвалю" па-беларуску!" і "Няма мовы — няма народа!"), раздавалі мінакам газеты "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" "Наша слова" і праводзілі збор подпісаў за беларускамоўнае вяшчанне на краіну радыёстанцыі "Нямецкая хваля". У акцыі ўзялі ўдзел каля 10 чалавек, у тым ліку яе заяўнікі — выпускнік Дзяржаўнага універсітэта культуры **Зміцер Каспяровіч** і журналіст **Вадзім Александровіч**, а таксама прадстаўнікі кіраўніцтва ТБМ.

У інтэрвію БелаПАН В.Александровіч зазначыў, што ва ўмовах патурання працэсам русіфікацыі з боку беларускай дзяржавы краіны свабоднага свету павінны ўзяць на сябе абавязкі абароны культурнай спадчыны беларусаў, у тым ліку беларускай мовы.

*(Працяг на ст. 3.)*

## Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ



27 жніўня ў Гародні прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На канферэнцыю з'ехаліся дэлегаты з большасці арганізацый Гарадзенскай вобласці і горада Гародні. У працы канферэнцыі прыняў удзел старшыня Таварыства Алег Трусаў.



На павестку дня канферэнцыі былі вынесены традыцыйныя для такіх мерапрыемстваў пытанні: справаздача старшыні арганізацыі пра дзейнасць за апошнія два гады, справаздача старшыні рэвізійнай камісіі, выбары новай рады, новага старшыні, новай рэвізійнай камісіі і яе старшыні, выбары дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ ад абласной арганізацыі, а таксама было разгледжана пытанне аб газеце "Наша слова".

Са справаздачным дакладам аб дзейнасці арганізацыі выступіў старшыня абласной арганізацыі Алесь Місцюкевіч. Пытанні, паднятыя ў дакладзе, ахопліваюць увесь спектр праблем бытавання беларускай мовы на Гарадзеншчыне, а іх, мабыць, не менш, чым у любой іншай вобласці: дзве арганізацыі не змаглі перарэгістравацца на новыя юрыдычныя адрасы, знікненне беларускамоўнай адукацыі, СМІ, афармленне нашых гарадоў, мова абвестак у транспарце і шмат іншага. Праблем усюды шмат. Разам з тым абсалютна зразумела, што ніякай цэнтралізаванай антыбеларускай палітыкі ў вобласці не праводзіцца. У кожным раёне, у кожнай галіне дзейнасці праблемы носяць свой характар, звязаны з асобнымі персаналіямі ці асобнымі падходамі. Таму і дзейнасць ТБМ павінна насіць дыферынцыраваны характар, улічваць асаблівасці раёнаў.

Ад рэвізійнай камісіі даклад зрабіла яе старшыня Марыя Жукевіч.

Сітуацыю з газетай "Наша слова" далажыў рэдактар газеты Станіслаў Суднік.

Новую раду абралі ў складзе 9 чалавек. У яе ўвайшлі: Алесь Місцюкевіч, Алесь Крой, Іван Буднік (Гарадзенскі р-н), Станіслаў Суднік (Ліда), Аляксей Пяткевіч, Павел Сцяцко, Тацяна Трафімчык (Слонім), Святлана Тарасава, Ірына Данілеўская.

Старшынём рады на новы тэрмін абраны **Алесь Місцюкевіч**, намеснікамі абраныя **Алесь Крой і Іван Буднік.**

У рэвізійную камісію абраныя: Марыя Жукевіч, Міхась Аляншка, Ніна Кануннікава. Старшынём камісіі абраная **Марыя Жукевіч.**

Дэлегатамі на з'езд ТБМ абраныя А. Крой, І. Буднік, Т. Трафімчык, М. Жукевіч, Н. Канунікава.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў выступіў пад заслону канферэнцыі. Ён засяродзіў увагу новай рады на задачах, якія стаяць перад абласной арганізацыяй і ў прыватнасці на падпісцы на газету "Наша слова", зборы подпісаў супраць "Нямецкай хвалі", але, безумоўна, асноўная праблема арганізацыі - гэта адукацыя. У Гародні няма ні адной беларускай школы, і задача № 1 - дабіцца яе адкрыцця. Для Ліды такая ж задача - дабіцца адкрыцця Нацыянальнай гімназіі, цалкам беларускамоўнай, аўтарытэтнай і папулярнай.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымках:** 1. Справаздачу робіць Алесь Місцюкевіч; 2. Выступае старшыня ТБМ Алег Трусаў.

# Беларускамоўная адукацыя ў лічбах

| № | Найменне раёнаў | Усяго школ | Усяго вучняў | у тым ліку з адной мовай навучання - усяго | | | | | | | | | | школы з дзвюма і болей мовамі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | коль-касць школ | у іх вучняў | з іх | | | | | | | | коль-касць школ | у іх вучняў | з іх вучняў, якія вучацца на: | | | |
| | | | | | | рускія | | беларускія | | літоўскія | | польскія | | | | рускай | беларускай | польскай | літоўскай |
| | | | | | | школ | вучняў | школ | вучняў | школ | вучняў | школ | вучняў | | | | | | |
| 1 | Астравецкі | 30 | 3959 | 25 | 2032 | | | 24 | 1957 | 1 | 75 | | | 5 | 1927 | 1131 | 796 | | |
| 2 | Ашмянскі | 34 | 4838 | 31 | 2462 | 1 | 180 | 30 | 2282 | | | | | 3 | 2376 | 1947 | 429 | | |
| 3 | Бераставіцкі | 12 | 2672 | 9 | 1186 | | | 9 | 1186 | | | | | 3 | 1486 | 1215 | 271 | | |
| 4 | Ваўкавыскі | 32 | 11929 | 22 | 3695 | 2 | 1104 | 19 | 2395 | | | 1 | 196 | 10 | 8234 | 6110 | 2124 | | |
| 5 | Воранаўскі | 33 | 4937 | 31 | 3723 | 2 | 709 | 29 | 3014 | | | | | 2 | 1214 | 1198 | 16 | | |
| 6 | Гарадзенскі | 36 | 8074 | 24 | 4986 | 15 | 3433 | 9 | 1553 | | | | | 12 | 3088 | 2151 | 929 | 8 | |
| 7 | Дзятлаўскі | 24 | 4836 | 21 | 2996 | 1 | 393 | 20 | 2603 | | | | | 3 | 1840 | 1299 | 541 | | |
| 8 | Зэльвенскі | 22 | 3129 | 19 | 1808 | | | 19 | 1808 | | | | | 3 | 1321 | 533 | 788 | | |
| 9 | Іўеўскі | 30 | 4574 | 28 | 2700 | | | 28 | 2700 | | | | | 2 | 1874 | 1707 | 167 | | |
| 10 | Карэліцкі | 22 | 3481 | 19 | 1857 | | | 19 | 1857 | | | | | 3 | 1624 | 1085 | 539 | | |
| 11 | Лідскі | 50 | 19864 | 37 | 9831 | 7 | 6395 | 30 | 3436 | | | | | 13 | 10033 | 5437 | 4596 | | |
| 12 | Мастоўскі | 26 | 5421 | 22 | 2876 | 2 | 670 | 20 | 2206 | | | | | 4 | 2545 | 2274 | 271 | | |
| 13 | Наваградскі | 32 | 6605 | 25 | 2500 | | | 25 | 2500 | | | | | 7 | 4105 | 2950 | 1155 | | |
| 14 | Свіслацкі | 19 | 3096 | 16 | 1623 | | | 16 | 1623 | | | | | 3 | 1473 | 1189 | 284 | | |
| 15 | Слонімскі | 32 | 9586 | 28 | 6945 | 7 | 4921 | 21 | 2054 | | | | | 4 | 2611 | 2281 | 330 | | |
| 16 | Смаргонскі | 34 | 8833 | 28 | 2311 | 2 | 686 | 26 | 2525 | | | | | 6 | 5622 | 3678 | 1944 | | |
| 17 | Шчучынскі | 33 | 6908 | 28 | 5457 | 7 | 3485 | 21 | 1972 | | | | | 5 | 1451 | 989 | 462 | | |
| | Гародня | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 18 | Кастрычніцкі | 18 | 21454 | 15 | 18420 | 15 | 18420 | | | | | | | 3 | 3034 | 2979 | 55 | | |
| 19 | Ленінскі | 18 | 18620 | 16 | 16037 | 15 | 15656 | | | | | 1 | 381 | 2 | 2583 | 2230 | 353 | | |
| | **Усяго па вобласці** | **537** | **152816** | **444** | **94375** | **76** | **56052** | **365** | **37671** | **1** | **75** | **2** | **577** | **93** | **58441** | **42383** | **16050** | **8** | |
| | **у т. л. сельск. мясц.** | **395** | **42795** | **373** | **38426** | **17** | **3640** | **355** | **34711** | **1** | **75** | | | **22** | **4369** | **2162** | **2207** | | |
| | **Для даведкі на пач. 2003/2004 нав. года** | **559** | **160711** | **457** | **91026** | **67** | **50260** | **387** | **39728** | **1** | **75** | **2** | **603** | **102** | **69685** | **48105** | **21564** | **16** | |

***Гэтая табліца адлюстроўвае навучанне на нацыянальных мовах у Гарадзенскай вобласці ў 2004/2005 навучальным годзе. Лічбы гавораць самі за сябе.***

Параўнайце колькасць школ з рускай і беларускай мовамі навучання. Убачыце цікавыя факты. Напрыклад, у Лідскім раёне школ з рускай мовай навучання ўсяго 7 (6.395 вучняў), а з беларускай 30 (3.436). Падзяліце колькасць вучняў на колькасць школ і атрымаеце, што ў кожнай з сямі рускамоўных школ займаецца звыш 900 вучняў. У той жа час у 30 так званых беларускіх па 114. Гэта ў сярэднім. Тое ж можна сказаць пра Слонімскі раён (адпаведна 7 (4.921) і 21 (2.054).

Усяго па вобласці 76 школ з адной мовай навучання — рускай. Тут займалася 56.052. У 365 школах з беларускай мовай навучання налічваўся 37.671 вучань. У 98 школах з двума і больш мовамі навучання па-руску вучылася 42.383 чалавекі, па беларуску – 16.050. Атрымліваецца, што ў вобласці ў мінулым навучальным годзе на рускай мове ўсяго вучылася 98.435 чалавек, на беларускай – 53.721.

Вось вам і ўсе хітрыкі з так званай роўнасцю вывучэння рускай і беларускай моваў.

Улічым, што кожны год закрываюцца менавіта сельскія пачатковыя і базавыя школы. За апошнія 2-3 гады такіх "неперспектыўных" набралася амаль паўсотні.

Што да Гародні, то тут гаворка асобная. Кастрычніцкі і Ленінскі раёны горада маюць разам 30 школ з рускай мовай навучання (34.076 вучняў). Школ з дзвюма і больш мовамі – 5 (4.034), у якіх па-руску вучылася 5.029 школьнікаў, па-беларуску 408 чалавек.

Такім чынам, у вобласці ў 2004/2005 навучальным годзе было 537 школ. Агульная колькасць вучняў 152.816 чалавек. З беларускай мовай навучання 365 (68 працэнтаў). З рускай 76 (14,3 працэнта). З беларускай і рускай мовамі навучання — 93 (17,3 працэнта).

На беларускай мове вучылася 35,2 працэнта школьнікаў. На рускай - 64,4 працэнта.

У першых класах налічвалася 10.668 чалавек. З гэтай колькасці ўсяго 2.804 (26,3 працэнта) вучылася на беларускай мове. На рускай — 7.813 (73,2 працэнта).

Тэндэнцыя відавочная: родная мова выціскаецца са школы.

*Антон Лабовіч,*
*Гародня.*

## У НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ КАЛЯ 27 ПРАЦЭНТАЎ ВУЧНЯЎ БУДУЦЬ ПРАХОДЗІЦЬ НАВУЧАННЕ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Каля 27 працэнтаў вучняў у новым навучальным годзе будуць праходзіць навучанне на беларускай мове. Пра гэта 18 жніўня паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Менску намеснік міністра адукацыі Беларусі Казімір Фарына. Паводле яго слоў, "сёння ў Беларусі існуюць школы з беларускай, рускай, дзвюма (беларускай і рускай), польскай, літоўскай мовамі навучання".

У сваю чаргу намеснік дырэктара Нацыянальнага інстытута адукацыі па навукова-метадычнай працы Алег Лісейчыкаў паведаміў, што "зроблены ўсе захады для таго, каб падручнікі па беларускай мове пачынаючы з дзевятага класа былі арыентаваныя для выкарыстання ў працэсе навучання ў школах з рускай і беларускай мовамі навучання".

Таксама намеснік міністра ўзгадаў, што з гэтага навучальнага года вывучэнне замежных моў (англійская, французская, нямецкая і іспансквая) у школах будзе весціся з другога класа. Ён зазначыў, што "сёння права выбару вывучэння замежнай мовы дадзена бацькам". "У плане навучання прадугледжана вывучэнне пры дапамозе факультатыва любой замежнай мовы праз рэалізацыю школьнага кампанента", — дадаў ён.

У сувязі з гэтым А. Лісейчікаў паведаміў, што ў 12-гадовай школе, "улічваючы значнасць моўнай падрыхтоўкі", Нацыянальным інстытутам адукацыі было прапанавана "на старэйшай ступені школы вывучэнне замежных моў у аб'ёме трох гадзін на базавым узроўні, чатырох гадзін — на павышаным узроўні, сямі — на паглыбленым".

*Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.*

*Анатоль Грыцкевіч*

# Аршанская бітва 1514 года і яе ўдзельнікі

### 1. БІТВА ЕЎРАПЕЙСКАГА ЗНАЧЭННЯ

Адной з вялікіх бітваў XYI стагоддзя з'яўляецца бітва пад Оршай, якая адбылася 8 верасня 1514 г. паміж войскам Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якім камандаваў князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, і маскоўскім войскам, што налічвала амаль утрая больш воінаў, чым у войску Канстанціна Астрожскага. Перамогу атрымала войска нашай дзяржавы.

Значэнне Аршанскай бітвы мела вялікі ўплыў на ход гістарычных падзей ва Усходняй Еўропе. Перамога пад Оршай уратавала незалежнасць Беларуска-Літоўскага гаспадарства і таму займае пачэснае месца ў нашай гісторыі. Дзень 8 верасня стаўся Днём беларускай вайсковай славы. Штогод патрыятычныя грамадскасць Беларусі адзначае яго як адно з галоўных нацыянальных святаў.

### 2. ЗАМОЎЧАНАЯ Ў САВЕЦКІ ЧАС БІТВА

Аднак доўгі час пра гэты дзень сваёй вайсковай славы беларусы не ведалі. У савецкі час у афіцыйных падручніках нічога пра Аршанскую бітву не пісалі, як і ўвагуле пра захопніцкую палітыку Расіі ў дачыненні да Беларусі. Яна не ўпісвалася ні ў афіцыйную гісторыю Расійскай імперыі, ні ў афіцыйную гісторыю СССР як нашчадка Расійскай імперыі. Не пісалі пра яе і ў гісторыі БССР як складовай часткі СССР (а значыць, і імперыі). Толькі асобныя расійскія гісторыкі (М.М. Карамзін, С.М. Салаўёў) ды расійская Ваенная энцыклапедыя ў 1914 г. згадвалі яе, бо аб'ектыўна не маглі абмінуць.

Польскія гісторыкі адносілі яе да польскай вайсковай гісторыі, перабольшвалі ўдзел польскіх вайсковых аддзелаў у ходзе бітвы. У 90-х гадах XX ст. літоўскія гісторыкі цалкам прыпісвалі яе літоўцам, бо наша агульная дзяржава насіла назву Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, скарочана - Літоўскае. Наўмысна блытаючы палітонім (назву грамадзян дзяржавы) і этнонім (назву нацыі, народнасці) літоўскія гісторыкі прыпісваюць літоўцам і жамойтам падзеі беларускай гісторыі. Нездарма, у школьных падручніках у Літве фігуруе, напрыклад, Пранцішкас Скарына, "які пісаў свае кнігі на нацыянальнай мове" (зразумела, для літоўскіх гісторыкаў на літоўскай).

### 3. УЗНАЎЛЕННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ ПАМЯЦІ.

Толькі пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі Дзень 8 верасня пачаў святкавацца беларускімі патрыётамі як Дзень беларускай вайсковай славы.

Менавіта 8 верасня 1992 г. на Плошчы Незалежнасці ў Менску беларусы-афіцэры прымалі вайсковую прысягу на вернасць Беларусі. У прыняцці прысягі прымалі ўдзел афіцэры ў адстаўцы і палітычныя дзеячы Беларускага Народнага Фронту. Побач стаялі Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк і аўтар гэтых радкоў. Захаваўся здымак Ул. Карміліна, які таксама прымаў прысягу як прапаршчык у адстаўцы.

8 верасня 1992 г. у "Народнай газеце" быў надрукаваны артыкул аўтара гэтых радкоў "Бітва пад Оршай". У той жа дзень ён быў надрукаваны на рускай мове ў газеце "Во славу Родины", органе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Як бачым, тады і афіцыйныя органы шукалі карані беларускай вайсковай гісторыі.

Тады ж, у 1992 г., у 6-м нумары часопіса "Спадчына" быў надрукаваны мой артыкул "Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г.". Паколькі наклад часопіса тады меў каля 9 тысяч асобнікаў, а часопіс выпісвалі шматлікія падпісчыкі, то пра бітву пад Оршай даведаліся многія беларусы не толькі з газет, а з часопіса, які захоўваецца больш старанна, чым газета, і можна да тэксту вяртацца, калі гэта патрэбна. Ад таго часу кожны год я друкаваў артыкулы пра Аршанскую бітву ў розных газетах.

*(Працяг на ст. 4.)*

# Аршанская бітва 1514 года і яе ўдзельнікі

(Працяг. Пачатак на ст. 2.)

Я добра памятаю, як Мікола Ермаловіч, прачытаўшы мой атыкул у часопісе, сказаў мне: "Мне цяпер няма неабходнасці вывучаць дакументы. Тут усё сказана". Ён і ўзяў за аснову гэты артыкул, калі ў сваёй апошняй працы "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае" (Менск, 2000) пісаў старонкі пра Аршанскую бітву. Ад часу маіх публікацый 1992 г. і пазнейшых гадоў Аршанская бітва 1514 г. стала ўсеагульнавядомай.

На аснове артыкула ў часопісе змешчаны мае артыкулы пра Аршанскую бітву ў 1 томе "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (Менск, 1993, С. 187-188) і ў 1 томе "Беларускай Энцыклапедыі" (Менск, 1996, С. 537-538). Пры далейшай працы з крыніцамі я ўнёс удакладненні ў тэкст артыкула ў часопісе "Спадчына" (1992, № 6), і яны былі ўлічаны ў "Беларускай Энцыклапедыі".

У 1-м томе Энцыклапедыі "Вялікае Княства Літоўскае" кіраўніцтва Беларускай Энцыклапедыі не ўсё гэта ўлічыла. Таму ў гэтым артыкуле я і хачу ўнесці дакладнасць і паўтарыць раней апублікаваныя мною лічбы. Справа датычыцца колькасці ўдзельнікаў бітвы з беларускага боку і прадстаўніцтва ў ёй польскіх аддзелаў. Пра гэта больш падрабязна будзе сказана ніжэй у тэксце гэтага артыкула.

За апошнія гады незалежнай Беларусі шмат ужо напісана пра вайсковую гісторыю Беларусі, у тым ліку, і пра дачыненні паміж Беларуска-Літоўскай дзяржавай і Маскоўскім вялікім княствам. Адносіны паміж імі, паміж Расіяй і Беларуссю, былі рознымі былі і мірныя гады, былі і жорсткія, знішчальныя войны.

Усё гэта ні інструкцыямі звыш, ні забаронамі, ні цэнзурай, ні фальсіфікацыяй з гісторыі ніхто не зможа выкрасліць.

### 4. МІЖНАРОДНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў ПАЧАТКУ XVI СТ.

У канцы XV-XVI стагоддзі адносіны паміж Маскоўскім Вялікім княствам і Беларуска-Літоўскім гаспадарствам былі вельмі напружанымі. Ішла барацьба за землі Русі – або пад панаваннем Масквы, або пад эгідай Вільні. Барацьба ішла тады з пераменным поспехам. Пра гэта трапна сказаў А.С. Пушкін (зразумела, з расійскага пункту гледжання):

***Уж давно между собою***
***Враждуют племена,***
***Не раз клонилась под грозою***
***То их, то наша сторона.***

Улетку 1514 г. падчас чарговай вайны маскоўскім войскам (з-за здрады князя Міхаіла Львовіча Глінскага) удалося захапіць Смаленск. Здавалася, шлях у глыбіню Беларусі для яе захопу маскоўскімі войскамі быў адкрыты. Пасля капітуляцыі Смаленска Вялікі князь маскоўскі Васіль III накіраваў далей у Беларусь 80-тысячную конніцу з баяраў і "людзей вайсковых" (дваранаў і дзяцей баярскіх). Простых воінаў было мала.

На чале гэтага войска стаялі галоўныя ваяводы – баярын Іван Андрэевіч Чаляднін і баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў – Голіца, продак князёў Галіцыных.

Каб папярэдзіць наступ вялікай маскоўскай арміі, Вялікі князь літоўскі (ён жа кароль польскі) Жыгімонт Казіміравіч, унук Ягайлы, накіраваў насустрач маскоўскаму войску 30-тысячнае войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы пад камандаваннем Гетмана Найвышэйшага, князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага – лепшага палкаводца нашай дзяржавы ў той час.

Звычайна, паводле польскай гістарыяграфіі, сцвярджаецца, што у войску К. Астрожскага было ажно 14 тысяч польскіх вершнікаў і 3 тысячы наёмнай польскай пяхоты, а войска Вялікага Княства Літоўскага мела 16 тысяч, аднак, спасылаючыся на кракаўскія архівы і далейшыя іх публікацыі (Акты Таміцыяна, том 3-ці), расійскі гісторык М.К. Любаўскі ў кнізе "Літоўска-Рускі сейм" (Масква, 1900) адзначае, што земскае апалчэнне шляхты Вялікага Княства Літоўскага збіралася вельмі марудна. Ні шляхта з Літвы, ні польскія жаўнеры да войска не паспелі далучыцца. А хто з жаўнераў падыйшоў, застаўся ў Берасці.

Жамойцкая шляхта ўвогуле намагалася бараніць свае межы з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі, а ўкраінская шляхта бараніла сваю тэрыторыю ад набегаў крымскіх татараў. І ў складзе войска К. Астрожскага, што сабралася ў Менску, дзе знаходзіўся сам Вялікі князь Жыгімонт, польскай конніцы і пяхоты было не больш як 4 тысячы. Гэтую лічбу называе польскі гісторык З. Вайцяхоўскі, удакладняючы, што з польскіх аддзелаў конніцы была палова, а другая палова – польская пяхоцінцы. Такім чынам, Канстанцін Астрожскі камандаваў у значнай ступені беларускім войскам, якое складалася з аддзелаў усіх беларускіх паветаў.

У нашым біяграфічным нарысе пра К.І. Астрожскага ("Славутыя імёны Бацькаўшчыны" Менск, 2003) таксама пададзены гэтыя лічбы.

У беларускім войску аддзеламі лёгкай конніцы (з лёгкім узбраеннем) камандаваў дасведчаны палкаводзец Юры Мікалаевіч Радзівіл, які пазней быў Гетманам Вялікім Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Асобныя аддзелы конніцы ўзначальваў Іван Сямёнавіч Сапега. На чале свайго апалчэння быў слуцкі князь Юры Сямёнавіч Алелькавіч. Польскімі аддзеламі камандавалі Войцах Сампалінскі і Януш Сьвярчоўскі.

### 4. ПАДРЫХТОЎКА ДА АРШАНСКАЙ БІТВЫ.

Вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Казіміравіч выехаў на тэатр ваенных дзеянняў каб каардынаваць дзейнасць войска Вялікага Княства Літоўскага і польскіх аддзелаў (паколькі быў адначасова і каралём польскім).

Месцам, дзе павінна было сабрацца агульнае войска, быў вызначаны Менск і яго ваколіцы. У канцы ліпеня 1514 г. Жыгімонт прыбыў у Менск. Як адзначае расійскі гісторык М.К. Любаўскі, тут быў праведзены агляд войска, і выявілася, што польскія аддзелы прыбывалі марудна, а большая частка іх жаўнераў засталася ў Берасці. Кароль накіраваў да іх асобны ліст, каб спяшаліся на вайну, а сам з войскам зрабіў пераход з Менска ў Барысаў, дзе зноў быў праведзены агляд войска і яго попіс (перапіс). Паколькі вораг паспеў захапіць Смаленск і паглыбіўся на тэрыторыю Беларусі, Жыгімонт паслаў насустрач маскоўскім войскам (80 тысяч чалавек) войска Вялікага Княства Літоўскага начале з Гетманам Найвышэйшым Канстанцінам Іванавічам Астрожскім, якое налічвала 30 тысяч чалавек. Сам жа Вялікі князь застаўся ў Барысаве з войскам у 4 тысячы чалавек, галоўным чынам польскіх жаўнераў (па іншых звестках у яго заставалася 5 тысяч чалавек). Гэтыя лічбы – 80-тысяч чалавек у войску Вялікага Княства Маскоўскага і 30 тысяч чалавек у беларускім войску Канстанціна Астрожскага – прыводзяцца ў рускіх летапісах, звестках іншаземцаў, хроніках М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні. Згаджаюцца з гэтымі лічбамі і вайсковыя гісторыкі XX ст.

Першы бой паміж беларускімі і перадавымі палкамі маскоўскага войска адбыўся на левым беразе Бярэзіны пры пераправе цераз раку войска князя К. Астрожскага. Папярэдне ён правёў артылерыйскую стральбу з гармат і гакаўніц (пішчаляў), нанёсшы страты непрыяцелю. Гэтая бітва адбылася 27 жніўня 1514 года. Падчас бою некалькі маскоўскіх палкоў было разбіта. Непрыяцель страціў каля 1300 чалавек. На наступны дзень авангард арміі К. І. Астрожскага нанёс паражэнне маскоўскім войскам у баі над ракою Бобр і 1 верасня дасягнуў ракі Друць. Тут аддзелы Івана Багданавіча Сапегі нанеслі паражэнне тром маскоўскім палкам. Было забіта некалькі соцень воінаў, шмат узята ў палон.

Тады галоўны маскоўскі ваявода Іван Чаляднін, якому Вялікі князь Васіль III даручыў камандаванне ўсімі сіламі, адступіў са сваімі войскамі за Днепр і выбраў для наступнай, галоўнай бітвы, добрае месца на яго левым беразе. Тут паміж Оршай і Дуброўнай ля ракі Крапіўны на вялікім полі і размясціліся маскоўскія палкі – на ўзгорках каля вёсак Пугайлава і Рукліна, злева ад лесу на рацэ Днепр ля вёскі Рукліна, пакінуўшы свабодную прастору для непрыяцеля ў лукавіне Дняпра на яго левым беразе. Менавіта тут І.А. Чаляднін планаваў даць генеральную бітву гэтай кампаніі, а можа і ўсёй вайны, разбіць меншага амаль утрая непрыяцеля, захапіць палонных і скончыць вайну перамогай.

Канстанцін Астрожскі таксама вырашыў даць тут бой, нягледзячы на свае параўнальна малыя сілы. Ён лічыў, што адной вярсты ад Дняпра дастаткова, каб разгарнуць свае сілы. Быў і псіхалагічны разлік для свайго войска – немагчымасць адступлення да бліжэйшых крутых берагоў Дняпра.

7 верасня 1514 г. войска Астрожскага наблізілася да Дняпра ў раёне Оршы. Гетман вырашыў не рызыкаваць, бо пераправу цераз раку пільнавалі конныя аддзелы ворага. Не жадаючы фарсіраваць раку пад стрэламі маскоўскіх лучнікаў, князь Астрожскі правёў тут дэманстратыўны манеўр, намагаючыся паказаць маскоўскім ваяводам, што пераправа беларускага войска адбудзецца менавіта тут. Таму Канстанцін Астрожскі пад заслонай сваіх жаўнераў пераправіў у гэтым месцы ўброд толькі некалькі тысяч коннікаў. Але маскоўскія ваяводы бяздзейнічалі, чакаючы, пакуль не падыйдзе да пераправы ўсё беларускае войска, каб потым адным вытам знішчыць яго цалкам. Увечары Астрожскі перасунуў па віцебскай дарозе ўсё сваё войска на поўнач ад Оршы і спыніўся на правым беразе Дняпра.

У ноч на 8 верасня Канстанцін Астрожскі загадаў пабудаваць цераз Днепр у гэтым месцы два пантонныя масты. Яны былі зроблены са шчыльна заканапачаных і звязаных паміж сабой пустых бочак. Для пераправы скарысталі таксама плыты і лодкі з суцэльным насцілам, каб колы гармат не грукалі. У балоцістых мясцінах ля ракі былі зроблены гаці з паваленых і звязаных дрэў. Конніца войска князя Астрожскага перапраўлялася цераз Днепр па вузенькім бродзе недалёка ад Аршанскай цвердзі, страціўшы пры гэтым толькі аднаго вершніка, які патануў. На працягу ночы па двух пантонных мастах была перапраўлена ўся пяхота і артылерыя войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў раён вёскі Пашына, што знаходзілася ў лукавіне Дняпра.

### 6. ПЕРАД БІТВАЙ

Бітва ў полі на беразе Дняпра, за пяць вёрст ад Оршы, адбылася 8 верасня 1514 г., у дзень нараджэння Багародзіцы. Гэты дзень увайшоў у гісторыю як Дзень беларускай вайсковай славы.

У маскоўскім войску галоўным ваяводам быў Іван Андрэевіч Чаляднін, другім самастойным ваяводам – князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца. Чаляднін паставіў раніцай усё сваё войска ў баявы парадак у тры выцягнутыя лініі. На флангах конныя аддзелы, каб падчас бою яны зайшлі ў тыл ворагу. Наперадзе стаяў полк перадавой варты. У цэнтры – маскоўскі вялікі полк, па фронце шырынёй 5 кіламетраў. На правым флангу – полк правай рукі, на левым, каля вёскі Рукліна, - полк левай рукі. На пагорку ў цэнтры за вялікім палком маскоўскага войска стаяў полк тылавой варты (рэзерва). Маскоўскае войска выступала пад белым сцягам (белы колер – адзін з улюбёных у славян).

Усе маскоўскія палкі былі конныя, цяжкіх гармат маскоўскія войскі не мелі, бо вялікі князь Васіль III загадаў пакінуць іх у захопленых замках. Але, як сведчыць гісторык М.М. Карамзін, "агністрэльны снарад" у маскоўскім войску быў.

Галоўны ваявода расцягнуў свае сілы таму, што яны амаль утрая перавышалі войска Канстанціна Астрожскага. Ён вырашыў акружыць супраціўніка, разбіць яго і скінуць рэшткі разбітых беларускіх аддзелаў у Днепр. Таму маскоўскае войска расцягнулася па лініях і ствараласа магчымасць прарваць іх. Адзіны сапраўдны кіраўнік у маскоўскім войску адсутнічаў, а кожны з двух галоўных ваяводаў камандаваў сваімі войскамі самастойна.

Гэта паўплывала на ход і вынікі бітвы пад Оршай. Адбілася на ходзе бітвы і тое, што ў маскоўцаў не было артылерыі. Да таго ж, яны, заспакоеныя сваёй колькаснай перавагай, былі ўпэўнены ў перамозе. Таму іх галоўныя ваяводы і ваяводы ніжэйшага рангу своечасова не заўважылі небяспекі, а калі яна выявілася падчас бітвы, то было ўжо позна.

Войска Канстанціна Астрожскага заняло баявыя пазіцыі па абодвух баках яра, які ішоў ад вёскі Пугайлава да пераправы цераз Днепр. Яны сталі паводле свайго старога баявога звычаю: наперадзе знаходзіліся два палкі беларускай конніцы Юрыя Радзівіла і польскай Януша Сврчоўскага. На правым і левым флангах стаялі па тры дапаможныя (рэзервовыя) палкі беларускай конніцы, якія складаліся з лёгка ўзброеных харугваў. На краі правага крыла К. Астрожскі размясціў ва ўкрыцці пад аховай лесу і паблізу ад берага Дняпра ўсе гарматы і частку пяхоты з рушніцамі (пішчалямі, самапаламі). Увогуле войска гетмана Астрожскага было сцягнута ў моцныя і згрупаваныя аддзелы, гатовыя прабіць расцягнутыя лініі ворага.

Як сведчыць батальная карціна "Бітва пад Оршай" (намалявана каля 1520 г., знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве), К.І. Астрожскі быў апрануты ў баявое адзенне з шабляй у каштоўных похвах. Падчас бітвы беларускае войска выступала пад дзяржаўным сцягам чырвонага колеру з срэбнай вывявай Пагоні на адным баку і Багародзіцы з дзіцяткам Ісусам на руках на другім. Побач з гетманам найвышэйшым неслі і другі сцяг, гетманскі, блакітнага колеру. З аднаго боку на ім была срэбная Пагоня ў чырвоным полі, з другога – абраз святога Станіслава. Асобныя паны мелі ў аддзелах (дружынах) свае ўласныя сцягі.

Так, на карціне ў руцэ аднаго з вершнікаў можна разгледзець чырвоны штандар з выявай герба Радзівілаў – трох паляўнічых ражкоў. У кожнага з беларускіх вершнікаў, паводле той карціны, у руцэ была доўгая дзіда з белым сцяжком-вымпелам, уздоўж якога пасярэдзіне праходзіць адна вузкая чырвоная палоска, якая перакрыжоўваецца бліжэй да тронца другой чырвонай палоскай. Гэта прадвеснік нашага гістарычнага нацыянальнага бела-чырвона-белага сцяга.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 08. 2005 г. у 11.30. Замова № 1359.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.